Гродна
№ 9 (420),
3 мая 2015

# Слова Жыцця

www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# СУСТРЭЧА З ПАПАМ ФРАНЦІШКАМ



фота: catholic.by

Алюмны Гродзенскай ВДС падчас сустрэчы са Святым Айцом на плошчы св. Пятра

**15 красавіка пілігрымаў з Гродна чакала цудоўная падзея, а менавіта сустрэча з папам Францішкам, які звярнуўся да іх са словамі:**

**– Сардэчна вітаю настаяцеляў і семінарыстаў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі ў Беларусі, якія прыбылі ў пілігрымцы падзякі за 25 гадоў яе дзейнасці. Умілаваныя, няхай візіт да магіл святых апосталаў Пятра і Паўла нагадвае вам, што пакліканне да святарства – гэта, перш за ўсё, асабістая сустрэча з уваскрослым Хрыстом, які кліча і пасылае сваіх вучняў несці ўсім радасную навіну аб збаўленні. Аб'яднаныя з Ім, будзьце мужнымі, каб сведчыць Евангелле са шчырасцю і міласэрнасцю. Я благаслаўляю вас з любоўю. Хвала Езусу Хрысту!**

● аб пілігрымцы і сустрэчы з Папам на с. 4

# МАЙ – МЕСЯЦ МАЦІ БОЖАЙ

*"Да Цябе ўсё прамаўляе:*
*Галасы людзей, траў, ветру,*
*І мінучыя, і спрадвечныя.*
*Усё ля ног Тваіх каецца,*
*Лісце ў садзе, зерне ў глебе,*
*Да Цябе ўсё горнецца.*
*Ты зарыстая Гаспадыня мая!"*

Ужо распачаўся месяц май, які паўсюдна лічыцца самым прыгожым. Касцёл прысвячае гэты перыяд асабліваму ўшанаванню Маці Божай. "На самой справе гэта Яна з'яўляецца найпрыгажэйшай кветкай, якая расцвіла з часоў стварэння, «ружай», якая з'явілася ў адпаведны час, калі Бог, пасылаючы свайго Сына, адарыў свет новай вясной. Яна таксама з'яўляецца пакорнай і далікатнай выканаўцай першых крокаў хрысціянскай супольнасці: Марыя – сэрца гэтай супольнасці, таму што сама Яе прысутнасць сярод вучняў з'яўляецца жывой памяццю пра Езуса і задаткам дару Яго Духа", – казаў у 2010 г. папа Бенедыкт XVI у катэхезе, якая растлумачвала літургічны кантэкст прысвячэння Марыі гэтага месяца.

Усемагутны Бог, Спрадвечная Мудрасць, даў свету свайго Сына праз Марыю. Прысутнасць Бога сярод нас у чалавечым целе была магчымай дзякуючы "fiat" Марыі. Гэты факт пацвярджае праўду, што Божая любоў ходзіць па людскіх дарогах, а роля Марыі выключная.

Як сказаў Ота Фабер, вядомы канвертыт, які перайшоў з англіканства ў каталіцызм: "З таго часу, калі мы выставілі Маці Божую за дзверы, нашае хрысціянства ўсё больш высыхае. Нам засталася вегетацыя. Калі мы хочам, каб яно зноў зацвіло, мы павінны вярнуць у англіканскі Касцёл Найсвяцейшую Маці". Вось, чаму святы Касцёл так ушаноўвае сваю Маці. Бо Яна з'яўляецца дарогай да Бога. Марыя па волі самога Бога стала дарогай, пасярэдніцай, праз якую на свет прыйшоў Хрыстос. Яна з'яўляецца не толькі дарогай Хрыста да нас, але і нашай дарогай да Хрыста. Увесь марыйны культ – гэта нішто іншае, як дарога да Хрыста, г.зн. да святасці.

● працяг на с. 3

## Каляндар падзей

*6 мая* свята св. апосталаў Філіпа і Якуба.

*9 мая* дзень малітвы за ахвяр II Сусветнай вайны і аб супакоі ў свеце.

*13 мая* гадавіна аб'яўленняў Маці Божай у Фаціме. VIII год навэнны перад 100-годдзем аб'яўленняў.

*14 мая* урачыстасць Унебаўшэсця Пана.

*15 мая* распачацце навэнны перад урачыстасцю Спаслання Святога Духа.

## Запрашаем!

*"Сімвал веры"*
*Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-2"*
***11 мая***
***ў панядзелак у 18.05***
*пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.*

## Аб'ява

***Рэдакцыя газеты "Слова Жыцця"*** *шукае спецыяліста з веданнем беларускай і польскай моў на пасаду перакладчыка.*
***Звяртацца да 8 мая бягучага года*** *па тэлефонах:* ***(0152)75-64-38*** *або* ***(8029)280-24-62.***

## Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

***Ці моліцеся Вы ў маі Ларэтанскай літаніяй?***

- *так, малюся індывідуальна*
- *так, малюся разам з сям'ёй*
- *так, у касцёле (каля прыдарожнага крыжа)*
- *час ад часу*
- *не, не маю часу*


выкажыся

**"Марыя заўсёды вядзе нас да Езуса" – папа Францішак**




### V ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Ян 15, 1–8**

Езус сказаў сваім вучням: “Я – сапраўдная вінаградная лаза, а Айцец Мой – вінаградар. Кожную галінку ўва Мне, якая не прыносіць плоду, Ён адразае, і кожную, якая дае плод, ён ачышчае, каб давала яшчэ больш пладоў. Вы ўжо чыстыя дзякуючы слову, якое Я сказаў вам. Заставайцеся ўва Мне, а Я ў вас. Як галінка не можа прынесці плоду сама з сябе, калі не застанецца ў вінаграднай лазе, так і вы, калі не будзеце ўва Мне.

Я – вінаградная лаза, вы – галіны. Хто застаецца ўва Мне, а Я ў ім, той прыносіць багаты плён, бо без Мяне нічога не можаце зрабіць. Хто не застаецца ўва Мне, будзе выкінуты вон, як галіна, і засохне. І збіраюць іх, і кідаюць у агонь, і яна згарае. Калі будзеце ўва Мне і словы Мае ў вас будуць, прасіце, чаго захочаце, і станецца вам. Гэтым услаўлена Айцец Мой, калі вы прынясеце багаты плён і станеце Маімі вучнямі”.

## ДАР ПЛЁННАГА ЖЫЦЦЯ

Гэта ісціна пра нас саміх і эфектыўнасць нашай дзейнасці: мы злучаны з Хрыстом сувяззю тленнага жыцця і вечнасці. Гэтая сувязь гарантуе поспех у рэалізацыі нашага прызначэння: “Без Мяне нічога не можаце зрабіць” – нічога, што мела б якое-небудзь значэнне, чаму мы маглі б сапраўды радавацца, што б мела знак трывання на вякі.

Трываць з Езусам – гэта не адзін са шматлікіх варыянтаў для шчаслівага і плённага жыцця. Наша сувязь з Ім – гэта адзіны спосаб надаць нашаму знаходжанню на зямлі належны сэнс. Менавіта ў перажыванні дару бессмяротнасці.

Сувязь з Хрыстом не заканчваецца на карысці для нас саміх. Трыванне ў еднасці з Ім расцягваецца на пазнанне, адчуванне прысутнасці Бога і пазнанне Яго хвалы. Таму варта рызыкнуць: абдумаць, а можа, і аднавіць гэтую непарыўную сувязь з Езусам...

### VI ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Ян 15, 9–17**

Езус сказаў сваім вучням: “Як Мяне палюбіў Айцец, так і Я палюбіў вас. Заставайцеся ў Маёй любові. Калі будзеце захоўваць Мае запаведзі, застанецеся ў любові Маёй, як і Я захаваў запаведзі Айца Майго і застаюся ў Ягонай любові.

Гэта Я сказаў вам, каб Мая радасць была ў вас, і каб радасць вашая была поўнай. Вось запаведзь Мая, каб вы любілі адзін аднаго, як Я палюбіў вас. Ніхто не мае большай любові за тую, калі хто жыццё сваё аддае за сяброў сваіх.

Вы сябры Мае, калі робіце тое, што Я наказваю вам. Я ўжо не называю вас слугамі, бо слуга не ведае, што робіць яго гаспадар. Я ж назваў сябрамі вас, бо ўсё, што чуў ад Айца Майго, Я сказаў вам.

Не вы Мяне выбралі, але Я выбраў вас і прызначыў, каб вы ішлі і прынасілі плён, і каб плён ваш трываў. Каб Айцец даў вам тое, чаго толькі папросіце ў імя Маё. Гэта наказваю вам, каб вы любілі адзін аднаго”.

## ВЫЙГРАЦЬ САМАЕ ВАЖНАЕ

Чым чалавек найбольш сябе раніць і псуе свой свет? Адказ дае сённяшняе Евангелле. Калі шчасце наша і нашых блізкіх, поспех усяго жыцця і шчаслівай вечнасці заключаюцца ў гэтай цудоўнай, непаўторнай сувязі з Богам, якая абапіраецца на любові, то найбольшыя страты чалавек нясе тады, калі забывае пра гэта, а ў выніку пачынае шукаць сваё шчасце па-за гэтай праўдай. На сваю бяду, ён часцей за ўсё пачынае ствараць заменнікі, “падробкі” сапраўднай любові. Гэтым ён скажае яе, перакручвае і ўрэшце рэшт змагаецца з яе карыкатурай. Гэта балючы досвед, бо кожны прагне любові, сапраўдных адносін з Богам і іншым чалавекам.

А ўсё падаецца такім простым: ёсць Бог Айцец, які нас любіць. Гаворыць нам, як нас любіць, і сведчыць аб гэтай любові таксама і Яго Сын – Езус Хрыстус. Гэтыя патрабаванні не з'яўляюцца перабольшваннем: мы толькі павінны давярыцца Яму праз паслушэнства.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

# Марыйны акцэнт нашага жыцця

**СЛОВА РЭДАКТАРА**
*Кс. Павел Салабуда*

Перад абліччам ўваскрослага Хрыста мы зноў вяртаемся пад дрэва Крыжа. Прыгадаем сабе вельмі важныя словы, сказаныя самім Хрыстом, словы, скіраваныя да Маці і любімага вучня: “Жанчына, вось сын Твой. (...) Вось Маці твая” (Ян 19, 26–27). Атрымаўшы прывілей ад Бога быць Маці Збаўцы, Марыя становіцца таксама Маці кожнага з нас. Наказ Езуса з крыжа мае вялікае значэнне перш за ўсё для кожнага з нас, для Касцёла, для цэлага чалавецтва. Марыя становіцца нашай Мамай. Ушаноўваючы Маці, мы ўшаноўваем Хрыста. Збіраючыся на маёвых набажэнствах, мы запрошаны прыняць запаветныя словы Хрыста. Вызнаючы сваю веру, мы становімся дзецьмі Марыі.

У маі мноства дарог вядзе да Марыі. Марыйны культ вельмі жывы на нашых тэрыторыях. Збіраючыся ў сваіх святынях і каля крыжаў, мы праслаўляем Марыю, аддаючы пашану Богу. Айцец Піо пісаў: “Маці Езуса і наша няхай выпрасіць у свайго Сына тую ласку, каб усё тваё жыццё складвалася па-божаму, каб нічога, ніводная рэч гэтага падлога свету не магла адарваць цябе ад Яго. Няхай Яна выпрасіць таксама тое, каб ты жыў у сяброўскай любові з Езусам”. Марыйны акцэнт нашага жыцця прыводзіць нас да блізкіх адносін з Богам.

Марыя становіцца нашай Пасярэдніцай перад Богам ва ўсіх справах. Маёвыя набажэнствы, прысвечаныя Найсвяцейшай Панне Марыі, становяцца выключнай нагодай, каб праз малітву, песні, праз ціхую асабістую размову даручыць Маці Божай свае справы, паказаць свае праблемы і нават ускласці да Яе ног усё сваё жыццё. Маці Божая ніколі не застаецца глухой да просьбаў сваіх дзяцей. Яна заўсёды выслухоўвае іх, каб праз сваё заступніцтва і апеку вымаліць у Хрыста ласку літасці і прадухілення нядолі. “Шчаслівы той, хто прыйдзе да Маці”, – сцвярджаюць словы цудоўнай марыйнай песні. Каля прыдарожнага крыжа ці капліцы не трэба ўзнёслых прамоў вучоных, каб закрануць Яе сэрца.

**Май становіцца месяцам праслаўлення Марыі. На працягу гэтага часу ў нас будзе мноства нагод, каб зрабіць і свае сэрца такім месцам хвалы для Маці Божай. Дык давайце ж прымаць удзел у цудоўных маёвых набажэнствах.**

ДЭКАНАТ ІЎЕ

*Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі*

# Геранёны



*Інтэр'ер святыні*

● *працяг з папярэдняга нумара*

Інтэр'ер касцёла перакрыты лучковымі скляпеннямі, над сакрысцямі столь падшыўная, плоская. У касцёле тры мураваныя двух'ярусныя алтары ў стылі барока і адзін драўляны ў стылі эклектыкі. Галоўны алтар двух'ярусны, упрыгожаны калонамі карынфскага ордэра і дэкараваны паліхромнай скульптурай, гарэльефнымі кампазіцыямі і жывапісам. У цэнтры, у вялікай барокавай нішы, у атачэнні гарэльефнага сюжэта Найсвяцейшай Тройцы змешчаны маленькі абраз Пана Езуса, у інтэркалумніях усталяваны фігуры святых апосталаў Пятра і Паўла, у другім ярусе змешчаны тытульны абраз св. Мікалая. Левы бакавы алтар св. Юзафа (наверсе – абраз св. Францішка з Асізі) і правы – Маці Божай Чанстахоўскай (наверсе – абраз св. Казіміра) па канструкцыйных асаблівасцях і дэкоры паўтараюць галоўны. У капліцы змешчаны алтар Укрыжавання. Хоры, крываліненейныя ў плане, над нартэксам абапіраюцца на трохпралётную арнаду. На хорах усталяваны арган у стылі ракако, упрыгожаны разьбянай фігурай Давіда з гуслямі ў акружэнні анёлаў. Сюжэтныя і арнаментальныя размалёўкі сцен і арачных праёмаў выкананы ў 1934 г. віленскім мастаком Чарнецкім у стылі “другога ракако”.

Злева перад касцёлам у другой палове XIX ст. была ўзведзена двух'ярусная каменная званіца, чацверыковая пад чатырохсхільным дахам. У той жа час касцёльны ўчастак быў абнесены бутавай агароджай, якая была пакрыта чарапіцай, а цяпер – бетоннай сцяжкай. Уваходная брама з кавальмі кратамі выканана ў стылі неабарока.

Яшчэ ў 1625 г. Ярашовай Пясецкай, старосцінай геранёнскай, пры Мікалаеўскім касцёле быў заснаваны шпіталь. Да парафіі з XVIII ст. належала капліца ў Бердаўшчыне, дзейнічала школа. Перад Другой сусветнай вайной колькасць вернікаў у парафіі перавышала 4600.

Дзейнічаў касцёл і пры савецкай уладзе. У 1970-я гг. атрымаў статус помніка архітэктуры рэспубліканскага значэння.

Ва ўсходняй частцы вёскі захавалася прыдарожная капліца-слупок, асвечаная ў гонар св. Юзафа, драўляная паліхромная фігура якога знаходзіцца ў другім, скразным, ярусе. Капліцка пабудавана ў XIX ст. у стылі класіцызму – гэта характэрнае двух'яруснае збудаванне з цэглы, атынкаванае і пабеленае, накрытае чатырохсхільным бляшаным дахам пад крыжам.


*Галоўны алтар*

Сёння ў парафіі акрамя касцёла дзейнічаюць капліцы ў Вінцуках і Суражы. Захавалася таксама капліцка ва ўжо амаль не існуючай вёсцы Роцкішкі.

За Геранёнамі, па дарозе на в. Кузьмічы, злева на невялікім насыпе ўсталяваны велічны карункавы крыж на бетонным пастаменце – так у 1930-я гг. мясцовы пан Шымон Мяйштовіч адзначыў месца, якое калісьці мела назву “Прабоства”, дзе стаяў драўляны дзвюхвежавы касцёл пад тытулам Найсвяцейшай Панны Марыі. Пабудавалі святыню ў 1772 г., але праз стагоддзе, у 1880-я гг., яна згарэла і больш не аднадзілася. А пры ўездзе ў Кузьмічы (заходняя ўскраіна вёскі) у 1970-я гг. вернікі пабудавалі невялічкую драўляную прыдарожную капліцку з фігуркай Маці Божай побач з высокімі драўляным і металічным крыжамі.

Узгадваюць мясцовыя старажылы і яшчэ адно “касцёльнае месца” – на плошчы, пры павароце на Роцкішкі. Тут таксама ўсталяваны металічны крыж. Такім чынам, у Геранёнах, калі верыць гэтым звесткам, існавалі ажно тры касцёлы.

# Май – месяц Маці Божай


Вернікі даручаюць Марыі ўсе свае клопаты і трывогі

● працяг са с. 1

На нашых землях марыйны культ вельмі распаўсюджаны, на працягу многіх гадоў на яго ў значнай ступені абапіраецца рэлігійнае жыццё. Старэйшыя вернікі прыгадваюць маёвыя набажэнствы ў час, калі іх праследавалі за веру. Тады ніхто адкрыта не мог маліцца. У вёсцы па вечарах людзі збіраліся ў хатах, часам каля прыдарожных каплічак ці крыжа і маліліся Ларэтанскай літаніяй, а потым спявалі "Пад Тваю абарону". Гэта былі вельмі хвалюючыя хвіліны, бо кожны спяшаўся на Маёўку, каб ушанаваць Найсвяцейшую Панну Марыю і праз цудоўную малітву выпрасіць ласкі і бласлаўленне.

У наш час цэлыя парафіі, сем'і і асобныя вернікі таксама інтэнсіўна моляцца ў маі праз заступніцтва Марыі, адгаворваючы, між іншым, Ларэтанскую літанію. Цэнтральным пунктам маёвага набажэнства з'яўляецца спяванне ці прамаўленне літаніі, перад і пасля якой спяваюцца марыйныя песні. У літанію ўваходзяць заклікі, накіраваныя да Бога ў Тройцы Адзінага, затым 52 заклікі да Маці Божай, дзе пералічваюцца розныя Яе тытулы, і тры звароты да Езуса Адкупіцеля. Заклікі да Маці Божай складаюць асноўны матыў Ларэтанскай літаніі і дзеляцца на тры групы: дагматычныя, якія падкрэсліваюць месца Марыі ў справе збаўлення, гісторыязбаўчыя, што выдзяляюць Яе ролю ва ўсёй гісторыі збаўлення, і эсхаталагічныя, якія ўказваюць на Яе благаслаўлёны стан у небе, дзякуючы чаму Яна з'яўляецца гарантыяй збаўлення і магутнай заступніцай перад Богам.

**Але якія нашы адносіны да Марыі? Іх можна падсумаваць у трох пунктах: каб належным чынам адносіцца да Яе, трэба шанаваць Марыю, любіць Марыю і быць Марыяй.**

## Шанаваць Марыю

Спачатку давайце задумаемся, што значыць шанаваць Марыю. Мы ж ужо робім гэта! Гэта наша прыгожая, багатая, цудоўная традыцыя. Усюды можна ўбачыць абразы, медальёны, каплічкі. Малітва да Марыі займае асаблівае месца ў нашых сэрцах: Ружанец, Анёл Панскі, Зварот, Гадзінкі… Вялікае значэнне маюць пілігрымкі, і асабліва цэнным для нас з'яўляецца акт аддання сябе Маці Божай. Упершыню ён здзяйсняецца падчас св. хросту, затым у час Першай св. Камуніі. Мы аддаём сябе Марыі таксама ў многія іншыя моманты свайго жыцця.

Але ўсё тое, што павінна быць збаўчым, прыгожым і багатым, ніколі не можа стаць "аўтаматычным". Заўсёды трэба нанова звяртаць увагу, нанова прасіць Святога Духа, каб вёў да канца, каб навучыў нас усяму.

## Любіць Марыю

Мы хочам не толькі шанаваць Марыю, але і любіць Яе. Кожнай маме неабходна любоў яе дзіцяці. Толькі тады, калі яна адчувае яго ўдзячнасць, яе сэрца яшчэ раз адкрываецца і можа любіць бязмежна. Таму мы хочам любіць Марыю, нашу Маму, каб быць для Яе суцяшэннем, дапамогай і нават абаронай. Як Маці Ёй неабходна гэта, але любоў да Яе яшчэ ў большай ступені неабходна нам! Толькі той, хто любіць Маці і разумее Яе, уваходзіць у Яе сэрца і адчувае сябе зразумелым. Трэба любіць Марыю, каб разумець Яе, каб падысці да Яе правільна.

## Быць Марыяй

Каб знайсці правільны падыход да Марыі, трэба быць Ёй. На першы погляд гэта гучыць трохі перабольшана. Як мы можам быць Марыяй? Гэта зашмат! Мы ж не нарадзіліся беззаганнымі. Аднак, гэта магчыма праз удзел у Яе ласцы. Так, мы не былі беззаганна зачатыя, але мы атрымалі чысціню сэрца, ачышчэнне ад усіх унаследаваных і асабістых він, ад усіх плям граху. Праз хрост, а затым праз аднаўленне хросту ў сакраманце пакаяння мы прымаем чысціню сэрца, унутраную свабоду. Мы можам ачышчацца дзякуючы Святому Духу, якога прымаем праз сакраманты і іншыя дары: Божае слова, малітву… Так мы можам стаць на дарогу Марыі.

Акрамя гэтага, мы бачым у Яе жыцці асаблівую адкрытасць на Божае слова. Марыя разважае ўсе падзеі са Святога Пісання і з уласнага жыцця. Адкрытая, асцярожная, як заўсёды, Яна ўзважвае кожнае слова, задумваецца над тым, што гэта значыць. Найлепшая малітва, дадзеная нам Марыяй, Магніфікат, з'яўляецца нібы зборам цытат са Святога Пісання. З таго, што Яна жыла Божым словам, можна пазнаць Яе ў традыцыі Божага люду. Усё ў Яе жыцці кіравалася Божым словам, і нам гэта таксама дадзена!

Трэцім аспектам, які дае нам падыход да Марыі, што дазваляе нам быць Ёй, з'яўляецца давер, асабліва ў цяжкія жыццёвыя моманты. Мы ведаем, што ў жыцці Марыі было шмат "крызісаў". Але Яна заўсёды ў такіх сітуацыях была здольна спытацца, шукаць далей і вытрываць у веры і даверы. Гэта яшчэ адна рыса Яе жыцця. І наколькі мы зможам разам з Ёй давяраць, пытацца, шукаць і трываць, настолькі мы становімся Марыяй на сваім месцы.

## А як на практыцы?

Тым, што больш за ўсё ўражвае і засмучвае ў нашым кульце да Найсвяцейшай Маці, з'яўляецца вядзенне пэўнага роду гандлю. Гэта наша чыстая карыслівасць. Найбольш частыя словы, якія мы ўзносім да Марыі, гэта: "дай, зрабі, выслухай". Варта прыгадаць сабе, колькі разоў мы маліліся толькі для таго, каб ушанаваць Яе? Не тое дрэнна, што мы просім у Маці Божай дапамогі ў сваіх штодзённых справах. Аб гэтым мы можам прасіць, і нават павінны, бо Яна наша Маці, а для Маці нішто не абыякава. Зло заключаецца ў тым, што ўвесь марыйны культ часам абмяжоўваецца да вырашэння нашых будзённых спраў.

Побач з гэтай выключна штодзённай карыслівасцю ў марыйным набажэнстве існуе яшчэ другая, такая ж грозная небяспека. Святы Луі дэ Манфор, вялікі тэолаг і апостал Марыі, акрэсліў яе словам "нахабства". Гэта адарванасць марыйнага набажэнства ад жыцця. Нахабным прыхільнікам з'яўляецца той, хто нават часта моліцца да Яе, ходзіць на марыйныя набажэнствы, але адначасова жыве ў цяжкіх грахах, залежнасцях, і яму нават у галаву не прыходзіць пачаць новае жыццё. Як жа часта чалавек можа спалучыць набажэнства да Маці Божай з брудам сумлення і амаль паганскім жыццём.

Беззаганнае Сэрца Марыі прагне быць нашым ратункам, дарогай да Хрыста… Пажылы маршал Францыі Луі Ліатай, які праславіўся шматлікімі перамогамі, мноства часу прысвячаў духоўным справам. Асабліва ён палюбіў набажэнства да Маці Божай, старанна маліўся на ружанцы. Аднойчы яго наведаў адзін з яго сяброў і заўважыў на стале кніжачку для набажэнства і ружанец. Ён вельмі здзівіўся, але маршал сказаў: "Не смейся. У жыцці абавязкова трэба на штосьці абапірацца". Гэта глыбокія словы, прадыктаваныя жыццёвай мудрасцю.

У жыцці абавязкова трэба на штосьці абапірацца. У нас павінны быць якія-небудзь трывалыя каштоўнасці, на якіх мы зможам будаваць сваё жыццё і не згубіць яго сэнсу. Мы, католікі, абапіраем сваё жыццё на культ Маці Хрыста і на даверы да Яе. Марыя заўсёды адкрыта на нас, толькі б мы не забыліся пра Яе і не падманулі Яе любячае мацярынскае Сэрца.

*Кінга Красіцкая*

## Слова для жыцця

### Папа Францішак



*Змест хрысціянскага сведчання – гэта не тэорыя, ідэалогія або складаная сістэма наказаў і забарон, а вестка пра збаўленне, канкрэтная падзея, больш за тое, Асоба – гэта ўваскрослы Хрыстос, жывы і адзіны Збаўца ўсіх. Аб Ім могуць сведчыць тыя, хто бачыў Яго асабіста, у Яго Касцёле, на шляху, які мае свае падставы ў хросце, свой пасілак у Эўхарыстыі, сваю пячатку ў канфірмацыі, сваё пастаяннае навяртанне ў сакраманце пакаяння і паяднання. Дзякуючы гэтаму працэсу, беспярапынна вядзёны Божым словам, кожны хрысціянін можа стаць сведкам уваскрослага Езуса. А яго сведчанне будзе настолькі годным даверу, наколькі будзе выходзіць з ладу яго жыцця: евангельскага, радаснага, адважнага, лагоднага, мірнага і міласэрнага. Калі, аднак, хрысціянін становіцца залежным ад камфорту, ганарыстасці, эгаізму, калі становіцца глухім і сляпым на заклік да "ўваскрашэння" шматлікіх братоў, як ён зможа абвяшчаць Езуса жывога, Яго вызваленчую моц і бясконцую пяшчоту?*

*"Regina Coeli" са Святым Айцом*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч

*Адзін з найбольш вядомых старажытных хрысціянскіх тэолагаў Тэртуліян казаў, што кроў мучанікаў – гэта насенне хрысціян. І гэтае насенне дае свае ўсходы.*

*Аднак злы дух не спіць. У новых умовах свабоды веравызнання мы перажываем новы крызіс. Вымучаную і вымаленую свабоду чалавек часта выкарыстоўвае як свабоду ад Бога. Замест таго, каб жыць свабодай дзяцей Божых, ён жыве свабодай ад Божага закону. Таму сёння ізноў неабходна бараніць веру і хрысціянскія карані Еўропы, бо замест часоў ваяўнічага атэізму прыйшлі часы матэрыялістычнага атэізму і маральнага рэлятывізму. Чалавек забываецца аб тым, што Евангелле нам дадзена не для таго, каб мы яго змянялі, але каб яно змяняла нас.*

*Фрагмент гаміліі падчас св. Імшы ў межах сімпозіума, прысвечанага Слузе Божаму б-пу Баляславу Слосканску*

Год кансэкраванага жыцця
НА СЛУЖБЕ БОГУ

# Бог вучыць давяраць Яму

***Сёння сваю гісторыю распавядае сястра Караліна з Кангрэгацыі Школьных Сясцёр Нотр-Дам.***



## Веры ў сям'і не саромеліся

Сястра Караліна паходзіць з горада Ліды з сям'і працоўных. Маці і бацька былі католікамі. У час ганенняў сваёй веры не саромеліся.

*"Мае бацькі былі такой парай, якая ў 1973 годзе ўрачыста брала ў нядзелю шлюб. У ЗАГСе яны распісаліся па-простаму, а на вянчанне мама шыла доўгую белую сукенку. Канешне, потым на працы выклікалі і маму, і тату. Але камсамольцамі яны не былі, таму не надта з-за гэтага перажывалі".*

Выклікалі іх і пасля хросту дзяцей, якіх у сям'і было трое. Але бацькі не звярталі на тое сур'ёзнай увагі. Жылі так, як лічылі слушным.

*"У нас была маленькая такая кніжачка з ілюстрацыямі з жыцця Хрыста. Мама і бабуля тлумачылі мне, што азначаюць малюнкі. Канешне, у тры гады я не ўмела чытаць, але вельмі любіла ўсім пераказваць па ілюстрацыях пра Езуса. Дайшло да таго, што я з гэтай кніжкай засынала".*

## У школе былі лаяльныя настаўнікі

*"Калі мы падраслі, мама напісала нам з братам у сшытак малітвы. Сказала, каб вучылі, бо хутка пойдзем на экзамен, дзе павінны ўсё ведаць".*

Па вечарах з дзецьмі малілася бабуля. Першай малітвай, якой яны навучыліся, была малітва да Анёла-ахоўніка.

Затым бабуля стала браць унукаў з сабою ў касцёл. І незадоўга дзяўчынка са старэйшым братам пайшлі да Першай Камуніі. Адбылося гэта летам у лідскім фарным касцёле.

У школе казалі, што Бога няма. Але жорсткіх праследаванняў веры не было: некаторыя настаўнікі на штосьці закрывалі вочы, бо, пэўна, самі былі веруючымі.

*"Мая класная сказала так: «Гучна пра гэта не кажы, але кожная сям'я робіць так, як лічыць патрэбным. А тое, што я павінна вам прачытаць на палітінфармацыі, я прачытаю. І ўсяго»".*

## Сёстры запрасілі да сябе

Калі падрастаў малодшы брат, было афіцыйна дазволена праводзіць для дзяцей катэхезу. І дзяўчына стала адказнай за тое, каб вадзіць на заняткі малодшага брата, бо дабірацца было далёка.

Пасля яго Першай Камуніі на навуку сталі хадзіць разам. З часам сястра запрасіла дзяўчыну ў групу марыянак. Затым – у хор. Неяк атрымлівалася ўсё сумяшчаць.

*"Аднойчы адна сястра спытала ў мяне, ці хацела б я стаць адной з іх. А я ў адказ: можна падумаю? Пасля зацікавілася, і сёстры сталі запрашаць мяне да сябе на малітву, часам на абед. Я бачыла, як яны жывуць, чым займаюцца. І адчувала, што мне гэта даспадобы. З іншага боку, я заўсёды марыла стаць настаўніцай. Мне падабалася правяраць малодшаму брату сшыткі, выпраўляць памылкі. І я думала, што калі стану сястрой, таксама змагу выкладаць, толькі не нейкі прадмет, а штосьці асаблівае…".*

## Шмат вучылася, каб вучыць самой

Як гэта часта здараецца, бацькі былі не ў захапленні ад выбару дачкі. Але пярэчыць гэтаму не сталі. Толькі дадалі, што ў любы момант яна можа вярнуцца.

*"Пасля школы я нікуды не паступала. У Гродна ўжо быў адкрыты Катэхетычны інстытут, і сёстры сказалі, што калі я да іх прыйду, адразу накіруюць мяне туды вучыцца".*

Пасля трох гадоў вучобы ў інстытуце дзяўчыну разам з іншымі сёстрамі накіравалі ў Варшаву для паступлення ва Універсітэт імя кардынала Стэфана Вышынскага.

*"З-за асноўнай працы не заўсёды хапала часу на вучобу. Тое, што магла, я вучыла. А па дарозе ва ўніверсітэт малілася да святога Антонія, каб выцягнуць «патрэбны» білет. І вось так ён мяне 6 гадоў цягнуў. А яшчэ мне дапамагалі чыстцовыя душы. Я заўсёды абяцала сабе: калі здам экзамен, памалюся за іх цэлы Ружанец. Такім чынам, заўсёды аддавала тое, што выпрошвала".*


Катэхеза – адна з найважнейшых паслуг

Старэйшыя сёстры прадоўжылі студэнткам фармацыю. Вечныя шлюбы яны склалі праз 9 гадоў пасля першых (згодна з кананічным правам, гэта максімальна магчымы перыяд). Адбылася гэтая доўгачаканая падзея 24 чэрвеня 2006 года ў касцёле святога Вацлава ў Ваўкавыску.

З таго часу сястра Караліна працавала ў Лідзе і Дзятлаве. Зараз ужо сёмы год у Ваўкавыску.

*"Аднойчы мы з моладдзю адправіліся за горад у паход. Дарога расцягнулася на 10 кіламетраў. Увечары сабраліся распальваць вогнішча, але запалак у нас не аказалася. Недалёка мы заўважылі дом і вырашылі папрасіць запалак у гаспадароў. Будынак аказаўся нежылы. І тады я прапанавала маладым людзям памаліцца да святога Антонія. Пасля гэтага мы прайшліся па двары і такі знайшлі запальнічку. Мы былі вельмі ўдзячны Богу за Яго клопат пра нас. Такія моманты ўмацоўваюць веру. Бог вучыць мяне давяраць Яму".*

*Ангеліна Пакачайла*




◆ *У іспанскай Валенсіі меў месца віртуальны ланцужок малітвы ў інтэнцыі пакліканняў. Яго ўдзельнікі абавязаліся штодзённа маліцца на працягу паўгадзіны да 26 красавіка. Ініцыятарам стаў Цэнтр кансультавання пакліканняў імя Яна Паўла II у Валенсіі. Мэтай акцыі была падрыхтоўка да Сусветнага дня малітвы аб пакліканнях, які прайшоў 26 красавіка. Ланцужок малітвы завяршыўся св. Імшой, якую ў нядзелю адправіў кард. Антоніа Каньісарэс.*

◆ *У Італіі быў забіты 55-гадовы кс. Ланфранка Росі. Яго цела выпадкова знайшлі турысты. Спачатку падазравалі няшчасны выпадак, але аказалася, што святар памёр ад удару па галаве. Паліцыя вядзе следства. Ксяндза Росі паўсюдна ведалі і шанавалі, таму што ён быў аўтарам тэалагічных кніг, а таксама быў звязаны з супольнасцю "Будаўнікі малітвы", якая прапагандавала хрысціянскую медытацыю.*

◆ *Абп Пол Рычард Галахер, сакратар па справах адносін Апостальскай Сталіцы з дзяржавамі, даў інтэрв'ю каталіцкаму журналу "Avvenire" у сувязі з усё больш драматычнай сітуацыяй на Блізкім Усходзе. Кіраўнік ватыканскага дыпламатычнага корпуса растлумачыў пазіцыю Апостальскай Сталіцы і сказаў, што вырашэнне праблем многіх краін, якія змагаюцца з фундаменталізмам, не можна даручаць толькі ваенным дзеянням, што "дапускаецца ўтрыманне агрэсіі шляхам шматбаковых дзеянняў і прапарцыянальнага ўжывання сілы". Адначасова ён сказаў, што над лепшымі сродкамі дасягнення гэтай мэты павінна задумацца міжнародная супольнасць.*

◆ *У Пакістане два маладых мусульманіна з Лахора ў адну з пятніц па дарозе ў мячэць затрымалі 14-гадовага пакістанца. Запыталіся ў яго, ці хрысціянін ён. Калі хлопец сказаў, што ён хрысціянін, яго пабілі, а затым падпалілі. Хлопец аказаўся ў бальніцы, больш за 55% паверхні яго цела было ў апёках. Яму дапамаглі людзі, што жылі на вуліцы, якой ён уцякаў. Ім удалося згасіць агонь і выратаваць хлопца. Нуаман з сур'ёзнымі апёкамі быў адвезены ў бальніцу, у якой, аднак, памёр.*

◆ *У Італіі хворы на рак 38-гадовы Сальватор Мелон прыняў святарскія пасвячэнні ў Барлета. Як падае religion.ORF.at, раней да яго пазваніў папа Францішак і папрасіў, між іншым, каб яго першай святарскай малітва была малітвай за Святога Айца. Сальватор Мелон паступіў у семінарыю ў 2011 г., а ў наступным годзе ў яго знайшлі рак. Мясцовы біскуп згадзіўся скараціць час семінарыйнай падрыхтоўкі з 6 да 4 гадоў, каб клерык паспеў прыняць святарскія пасвячэнні.*

*sedmitza.ru; gosc.pl; Ватыканскае радыё; niedziela.pl*

***Кс. Ян Раманоўскі***

# Незабыўныя хвіліны пілігрымкі ў Рым


фота: catholic.by

*Радасць ад сустрэчы з Папам*

**Пілігрымка семінарыстаў, выкладчыкаў і святароў Гродзенскай дыяцэзіі ў Вечны Горад пачалася 10 красавіка. Яе ўдзельнікі наведалі галоўныя рымскія базілікі, а таксама месцы, звязаныя з жыццём Апосталаў і святых, узносячы падзяку Богу за 25 гадоў дзейнасці семінарыі.**

Цэнтральным пунктам пілігрымкі стаў дзень 15 красавіка, калі пілігрымы з Гродна прынялі ўдзел у аўдыенцыі з папам Францішкам. Папа прывітаў настаяцеляў і навучэнцаў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне, якія прысутнічалі на агульнай аўдыенцыі на плошчы св. Пятра ў рамках сваёй пілігрымкі ў Рым.

Пасля сустрэчы з Папам і супольнага здымка пілігрымы наведалі Ватыканскія музеі, дзе маглі бліжэй пазнаёміцца з гісторыяй Апостальскай Сталіцы і папства і глыбей адчуць паўсюдны Касцёл. У гэты ж дзень пілігрымы ўдзельнічалі таксама ў святой Імшы ў капліцы генеральнага дома Кангрэгацыі Сясцёр Змёртвыхпаўстання Пана нашага Езуса Хрыста (змёртвыхпаўстанкі) у Рыме. Месца было абрана невыпадкова. Кангрэгацыя была заснавана Цэлінай і Ядзвігай Бажэнцкімі, маці і дачкой, у Рыме ў 1891 годзе.

Святую Імшу ў капліцы ўзначаліў гродзенскі біскуп Аляксандр Кашкевіч, які падзякаваў супольнасці сясцёр за запрашэнне і выраз вялікай павагі да Касцёла ў Беларусі. *"Сёння мы ішлі з тымі, хто ўтварае супольнасць семінарыі ў Гродне, як два вучні паспешна ішлі ў Эмаўс, каб спаткаць уваскрослага Пана"*, – сказаў іерарх.

У гаміліі дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі заахвоціў прысутных быць сапраўднымі сведкамі ўваскрослага Хрыста. *"Зараз мы перажываем перыяд Уваскрасення нашага Пана. Мы вырушылі ў пілігрымку нашай веры, каб ісці за той праўдай, што Хрыстос уваскрос,* – адзначыў іерарх. – *Ідучы ў нашай пілігрымцы, мы затрымліваемся на кароткі час ва ўсіх тых месцах, дзе раней жылі вялікія святыя, якія спаткалі Уваскрослага, і стараемся, каб праз нашу паставу і штодзённае жыццё іншыя маглі сустрэцца з Ім"*.

16 красавіка, у чарговы дзень наведвання Вечнага Горада, біскупаў дыяцэзіі, настаяцеляў і навучэнцаў Гродзенскай Вышэйшай духоўнай семінарыі прывітаў Дзяржсакратар папы Францішка кардынал П'етра Паралін. Сустрэча з іерархам адбылася ў базіліцы св. Пятра.

Кардынал Паралін у размове з гродзенскімі пілігрымамі прыгадаў свой візіт у Беларусь у сакавіку, які быў здзейснены па запрашэнні беларускай дзяржавы. Іерарх падкрэсліў, што застаўся ўражаны сведчаннем вернікаў каталіцкага Касцёла ў Беларусі і іх адданасцю Богу.

*"У маёй памяці застаецца сустрэча ў Мінску, дзе я меў магчымасць сустрэцца з некаторымі з вас. Я рады, што зараз вы прыбылі да месца пахавання Апосталаў, таму я жадаю вам добрага прабывання ў Рыме. Я думаю, што гэтая пілігрымка паспрыяе вашай добрай падрыхтоўцы да святарства. Падчас свайго візіту ў Беларусь я бачыў у людзей моцную веру, якая працягвае ўзрастаць. Гэта вельмі патрэбна і для будучых святароў. Я жадаю кожнаму з вас, каб у сваёй жыццёвай пілігрымцы вы дайшлі да святарства, і перш за ўсё, каб сталі святарамі веры, поўнымі жыцця, радасці і энтузіязму"*, – сказаў кардынал.

Прыгадваючы сустрэчу з Папам, Дзяржаўны Сакратар адзначыў: *"Веру, што сустрэча з папам Францішкам будзе для вас узмацненнем. Сёння, калі будзеце ўдзельнічаць у святой Імшы ў базіліцы св. Пятра, памятайце ў сваіх малітвах пра Святога Айца"*.

Напрыканцы сустрэчы кардынал удзяліў пілігрымам з Беларусі блаславенне і перадаў ружанцы на памяць. Пасля сустрэчы з Дзяржаўным Сакратаром Папы кардыналам П'етра Параліным пілігрымы ўдзельнічалі ў святой Імшы ў базіліцы св. Пятра. Імшу ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

Таксама ў гэты дзень семінарысты наведалі будынак Ватыканскага радыё ў Рыме, дзе пазнаёміліся з гісторыяй радыё і асабліва з яго беларускай рэдакцыяй. Увесь наступны дзень быў прызначаны на наведванне Рыма.

У размове з catholic.by біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, які быў у Рыме з супольнасцю семінарыі, адзначыў: *"Мы шчаслівыя, што дзякуючы Божаму Провіду мы змаглі прыехаць у Вечны Горад. Тут, пры гробе святога Пятра і святога Яна Паўла II, мы хочам дзякаваць за дар паклікання і 25 гадоў існавання нашай семінарыі, якая падрыхтавала ўжо 200 святароў"*.

*"Думаю, што словы, скіраваныя Святым Айцом Францішкам да нашых семінарыстаў, каб з радасцю і адданасцю служылі ўваскросламу Хрысту, і словы Дзяржаўнага Сакратара Яго Святасці кардынала П'етра Параліна, які заахвоціў нашых навучэнцаў быць святарамі веры, поўнымі жыцця, радасці і энтузіязму, да канца жыцця будуць спадарожнічаць нашым семінарыстам і весці іх па шляхах святарства. Менавіта такія святары сёння патрэбны: верныя і цалкам адданыя справе Божай!"* – дадаў біскуп.

Гродзенскі ардынарый выказаў надзею, што пілігрымка *"паспрыяе таму, каб семінарысты так жа, як сёння яны захоплены харастом убачанага ў Рыме, пазней кожны дзень захапляліся харастом святарскага жыцця"*.

17 красавіка семінарысты, выкладчыкі семінарыі і святары Гродзенскай дыяцэзіі пакінулі Вечны Горад. На іх шляху быў Асізі, дзе яны наблізіліся да жыцця св. Францішка, і шмат іншых месцаў, звязаных з жыццём Апосталаў і святых. Пілігрымка завяршылася святой Імшой у санктуарыі Найсвяцейшай Панны Марыі ў Чанстахове, дзе ў капліцы цудатворнага абраза семінарысты падзякавалі Маці Божай за апеку над іх навучальнай установай.

Семінарысты бясконца ўдзячны ўсім, хто паспрыяў таму, што гэтая пілігрымка стала магчымай, асабліва гродзенскаму ардынарыю і дапаможнаму біскупу, выкладчыкам семінарыі на чале з рэктарам кс. Раманам Рачко і ўсім людзям добрай волі.

***"Радасць ад сустрэчы з Папам, а таксама радасць ад наведвання святых месцаў, звязаных з тымі, хто спрабаваў змяніць аблічча гэтай зямлі і гэтага свету і хто пачуў Божы голас, пайшоў за Панам і стаў сведкам уваскрослага Хрыста, – усё гэта пакіне відавочны след у жыцці нашых семінарыстаў, якія рыхтуюцца да святарства і шукаюць дарог і адпаведных прыкладаў свайго будучага жыцця, каб як мага лепш рэалізаваць дарогу да святасці. Можна смела сказаць, што мы дасягнулі кульмінацыі нашай пілігрымкі – незабыўнай сустрэчы з папам Францішкам, які таксама ўдзяліў нам Апостальскае блаславенне. Я веру, што гэтая вялікая ласка і давер будуць значнай дапамогай для нашых навучэнцаў на наступныя гады падрыхтоўкі да Хрыстовага святарства".***

***Кс. Раман Рачко,***
*рэктар Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне*

***Крыніца: catholic.by***


фота: catholic.by

*Сустрэча з кард. П'етра Паралінам, Дзяржсакратаром Апостальскай Сталіцы*




*З вялікай радасцю прагнем паведаміць, што 1 чэрвеня бягучага года ў Гродне (пар. Беззаганнага Зачацця НПМ, мікрараён Паўднёвы) адбудзецца V Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці. Хочам з гэтым запрашэннем дайсці да кожнага дзіцяці нашай дыяцэзіі індывідуальна.*

*Дарагі малады Сябар, адчувай сябе ўжо цяпер запрошаным да ўдзелу ў гэтым свяце. Прыедзь у “Краіну радасці”, каб перажыць сапраўдную хрысціянскую радасць і вярнуцца дамоў і ў школу як ужо новы чалавек, з усмешкай на твары.*

*Дэвіз сёлетняга Дыяцэзіяльнага дня дзіцяці – “Хачу быць місіянерам радасці!” – няхай паўсюдна гучыць у гэты дзень сустрэчы з Богам і з Тваімі равеснікамі. Мы ўжо сёння гарантуем Табе цэлы набор цікавінак у апостальскім духу: малітва, Эўхарыстыя пад кіраўніцтвам ксяндза біскупа, забавы, музыка, гульні, конкурсы, а таксама тэатральныя інсцэніроўкі і прыемны сюрпрыз на заканчэнне.*

*На ўжо традыцыйны Дзень дзіцяці запрашаем першакамунійных дзяцей. Няхай гэтая сустрэча будзе для Вас падзякай за дар Эўхарыстыі. Падзяліцеся сваёй радасцю з іншымі!*

*Запрашаем на гэтую сустрэчу таксама Літургічную службу алтара – міністрантаў. Ваяры Пана, мы чакаем Вас!*

*Дарагія Дзеці разам з Катэхетамі і Бацькамі! Мы разлічваем на Вашу прысутнасць. З радасцю прыміце запрашэнне! Заахвочваем таксама да супрацоўніцтва ў арганізацыі гэтай нашай цудоўнай справы. Дзеці маюць магчымасць паказаць свае музычныя, тэатральныя, мастацкія здольнасці і да т.п. Дастаткова патэлефанаваць, прапанаваць і падаць заяўку аб удзеле, выступленні, выказаць прапанову і жаданне да супрацоўніцтва.*

*Ага! У нас ёсць яшчэ адна просьба да Цябе, наш дарагі Сябар. Памаліся аб добрым надвор'і, каб Бог падарыў нам прыгожае сонейка.*

**Кантакты для супрацоўніцтва:**
**e-mail: sakralna@op.pl;**
**(8-044)46-06-140 (Velcom), (8-029)78-40-572 (MTS).**

***З хрысціянскім прывітаннем,***
***кс. Юрый Марціновіч, адказны за ДДД***

**Прыблізная праграма сустрэчы:**

Ад 9.00 – **прыезд дзяцей і сняданак;**
10.30 – **урачыстае адкрыццё юбілейнага V Дыяцэзіяльнага дня дзіцяці;**
14.00 – **абед;**
Каля 16.00 – **св. Імша пад кіраўніцтвам ксяндза біскупа;**
18.00 – **разасланне малых місіянераў у свет. Заканчэнне.**

***Больш падрабязная праграма будзе пададзена трохі пазней.***

# Ці можа католік верыць у сны?

● *працяг з папярэдняга нумара*

“Не звяртайце ўвагі на вашыя сны, якія сніце” (Ер 29, 8). Гэтая фраза з Кнігі прарока Ераміі мае ў Бібліі шмат роднасных выказванняў. “Я чуў, – чытаем на некалькі старонак раней, – што сказалі прарокі, якія прарочылі фальшыва ў імя Маё: «Меў я сон, меў я сон!». Дакуль жа будзе гэта ў сэрцы прарокаў, прадказваючых няпраўду ды прарочачых падман сэрца свайго? Яны хочуць, каб праз сны іхнія, якія адзін аднаму расказваюць, народ Мой забыўся пра імя Маё. (...) Вось, Я супраць прарокаў, якія прарочаць фальшывыя сны, – кажа Госпад, – расказваюць іх і падманваюць народ Мой сваёй няпраўдаю і крывадушнымі абяцаннямі” (Ер 23, 25–27. 32).

Нагадаем яшчэ адну вельмі адназначную фразу з кнігі Сіраха: “Чалавек неразумны мае пустыя і падманныя надзеі, а сонныя мроі акрыляюць неразумных. Падобны да таго, хто хапае цень ды імчыцца за ветрам, той, які грунтуецца на сонных мроях. (...) За выключэннем выпадкаў, калі Найвышэйшы пасылае іх як свой знак, не прывязвай да іх свайго сэрца! Сны многіх увялі ў зман, і загінулі тыя, хто пакладаў у іх надзею” (Сір 34, 1–6).

Звярніце ўвагу на сказ: “За выключэннем выпадкаў, калі Найвышэйшы пасылае іх як свой знак”. Асабіста ў мяне няма сумненняў, што менавіта дзякуючы Божай ласцы той чалавек, пра якога я ўзгадваў на пачатку, атрымаў ад свайго памерлага бацькі заклік да навяртання. Гэта была Божая ласка, нават калі сон быў выкліканы чыста прыроднымі механізмамі.

А калі змест сну не згаджаецца так відавочна з верай, то ці можам мы не звяртаць на яго ўвагі? Ці можам адразу выключыць, што ён не паходзіць ад Усявышняга?

Прарок Даніэль, якому загадалі растлумачыць сон, папрасіў часу, каб памаліцца, і паклапаціўся аб тым, каб іншыя таксама маліліся аб святле для яго (параўн. Дан 2, 16–23). Таксама Юзаф Егіпецкі вельмі ясна ведаў, што калі некаторыя сны ад Бога, то і “растлумачыць мае Бог” (Быц 40, 8; параўн. 41, 16). Іншымі словамі, нават калі некаторыя сны паходзяць ад Бога, іх пасланне трэба будзе праверыць на яве – у веры, у малітве і ў еднасці з Касцёлам.



*“Сон Якуба”, Музей Ватыкана*

Як прыклад правільнага стаўлення да сну са зместам – у гэтым выпадку рэлігійным – прывяду апісанне сну, які за дзевяць гадоў да навяртання свайго сына Аўгустына ўбачыла святая Моніка: “Ёй прыснілася, што яна стаіць на нейкай драўлянай бэльцы і да яе падыходзіць ззяючы юнак, які весела ёй усміхаецца, хоць яна засмучана і прыгнечана горам. Ён спытаўся, чаму яна так сумуе і штодзённа пралівае слёзы. Калі яна сказала, што плача над маёю пагібеллю, ён загадаў ёй супакоіцца і ўважліва паглядзець, каб убачыць, што я там жа, дзе і яна. Яна паглядзела і ўбачыла, што я стаю побач з ёй на той жа бэльцы. (...) Калі яна распавяла мне гэты сон, а я паспрабаваў растлумачыць яго так, што ёй не трэба сумнявацца: яна калісьці стане тым, чым я быў, яна запярэчыла і без усялякага вагання адказала: «Не! Ён не сказаў мне: дзе ён, там і ты; а наадварот: дзе ты, там і ён»” (св. Аўгустын, Споведзь, 3, 11).

Калі б у выніку гэтага сну Моніка перастала маліцца аб навяртанні сына, гэта б азначала, што яна паддалася сонным фантазіям. Аднак, яна не толькі працягвала маліцца за сына, яе малітва стала яшчэ мацнейшай. Гэты сон умацаваў у ёй надзею, што ў канцы Езус знойдзе яе Аўгустына. Яна малілася стойка і цярпліва на працягу наступных дзевяці гадоў, якія прайшлі з тых часоў, як бачыла сон. І дачакалася навяртання сына. Сон стаў істотнай дапамогай у цяжкай барацьбе за душу сына. Чаму б не дапусціць, што ён сапраўды прыйшоў ад Бога.

***А. Яцэк Салій ОР,***
***з кнігі “Праца над верай”***




fronda.pl

***Узнікне бібліятэка Ёзэфа Ратцынгера – Бенедыкта XVI***

***Бібліятэка будзе адкрыта ў верасні ў Ватыканне.***

*Кнігазбор налічвае пакуль тысячу пазіцый на розных мовах. У значнай ступені яны з'яўляюцца падарункам самога Папы.*

*Адкрыццё бібліятэкі было абвешчана падчас прэзентацыі кнігі “Бенедыкт XVI. Слуга Бога і людзей” (“Benedetto XVI. Servo di Dio e degli uomini”). У ёй змешчаны разважанні вучняў і супрацоўнікаў Папы на пенсіі з нагоды 10-й гадавіны яго выбару на Пасад св. Пятра.*




***Падрыхтоўка да “Ночы касцёлаў”***

***У гэтым годзе яна адбудзецца ў розных краінах Еўропы 29 мая. У падзеі прыме ўдзел некалькі тысяч святынь.***

*У гэты дзень многія святыні будуць адчынены ноччу, а ў некаторых можна будзе паглядзець месцы, якія звычайна недаступны наведвальнікам. Акрамя магчымасці наведаць святыні і памаліцца ў іх, будуць запланаваны таксама разнастайныя культурныя падзеі: канцэрты, тэатральныя спектаклі, выставы ці сустрэчы з цікавымі людзьмі.*

*Сёлетнім дэвізам мерапрыемства будуць словы з псалма 139: “Сама цемра не будзе цёмнай для Цябе, а ноч, як дзень, заяснее: змрок для Цябе, як святло” (Пс 139, 12).*




***170-я гадавіна евангелізацыі Касцёла ў Габоне***

***Да сапраўднага і адважнага абвяшчэння Хрыста па прыкладзе першых евангелізатараў заклікаў папа Францішак Касцёл у Габоне. Ён якраз адзначае 170-годдзе евангелізацыі.***

*У пасланні Папа зрабіў акцэнт на неабходнасць будавання сапраўднай еднасці і братэрскага супрацоўніцтва ў Касцёле Габона. Прыгадаў, што ён з'яўляецца “Божай сям'ёй” і, што з гэтага вынікае, не можа падлягаць якімсьці племянным ці этнічным уплывам, якія супярэчаць Евангеллю.*

*Францішак прыгадаў пра актыўны ўдзел свецкіх у душпастарскай дзейнасці, заахвочваючы да лепшай фармацыі не толькі мясцовага духавенства, але і свецкіх вернікаў.*

***Кінга Красіцкая***

## Юбілейны канцэрт хору “Каласанс”

*19 красавіка ў Шчучыне ў Раённым доме культуры адбыўся канцэрт, прысвечаны 10-годдзю існавання моладзевага касцёльнага хору “Каласанс”. Гэтая падзея стала сапраўдным святам для ўсіх жыхароў горада.*



2005–2015 – гэта не проста гады існавання хору, але і неаддзельная частка жыцця шчучынскай парафіі св. Тэрэзы Авільскай. Музычным кіраўніком і сапраўдным сябрам хору ад самага пачатку была і застаецца Людміла Казлова. Духоўнымі настаўнікамі з’яўляюцца айцы піяры, якія служаць у парафіі. Дзякуючы сумеснай працы гэтых людзей, жаданню і актыўнасці ўдзельніц хору, Шчучын атрымаў сапраўднае свята для душы.

Падчас юбілейнага канцэрта цяперашнія ўдзельнікі хору і тыя, хто пачынаючы з 2005 года быў часткай гэтай сям’і, атрымалі падарункі.

## Да Дня малітвы за ахвяр Чарнобыльскай трагедыі

*Валанцёры дзіцячага праекта “Анёлы дабра” Дабрачыннага каталіцкага таварыства “Карытас” Гродзенскай дыяцэзіі арганізавалі выставу дзіцячага малюнка, прымеркаваную да Дня малітвы за ахвяр Чарнобыльскай трагедыі.*




26 красавіка прыпадае 29-я гадавіна Чарнобыльскай катастрофы. Мэта выставы – наблізіць сучасным людзям значэнне гэтай велізарнай трагедыі, якая адняла жыццё або здароўе ў многіх людзей, і заахвоціць усіх людзей добрай волі да малітвы ў інтэнцыі ахвяр трагедыі.

Малюнкі маленькіх пацыентаў артапеда-траўматалагічнага аддзялення Гродзенскай дзіцячай абласной бальніцы, намаляваныя ад душы і з чыстым сэрцам, перадаюць увесь жах перажытага амаль 30 гадоў таму.

Выставу дзіцячага малюнка можна наведаць па адрасе: Гродна, вул. Дзяржынскага, 91 (будынак “Карытас”). Час працы: з 15.00 да 17.00.

## Лідскія вернікі прынялі сакрамант канфірмацыі

*У парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі падчас святой Імшы моладзь і старэйшыя асобы прынялі сакрамант канфірмацыі з рук біскупа Аляксандра Кашкевіча.*



Разам з біскупам на ўрачыстасць прыбылі выкладчык Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі кс. Раман Катлімоўскі, які прамовіў гамілію, а таксама кс. Уладзімір Гуляй, пробашч лідскай Фары.

36 парафіян на працягу года рупліва рыхтаваліся да гэтай падзеі. Пробашч парафіі кс. Ян Асіповіч ахвярна дапамагаў ім у гэтым. Кожную нядзелю група збіралася на катэхезу і супольную малітву.

Урачыстасць упрыгожыў спевам хор “Крэсавяцы”.

## Дзякуйце Пану, бо Ён добры

*У нядзелю Божай міласэрнасці ў санктуарыі Езуса Журботнага ў Росі былі ахвяраваны 4 вотумы ўдзячнасці.*

Вотум у перакладзе з лацінскай мовы азначае складанне пашаны. У каталіцкім Касцёле вотум – гэта сімвалічны прадмет, ахвяраваны ў нейкай інтэнцыі, які вешаюць на алтары ці абразе. Ён з’яўляецца выразам удзячнасці вернікаў за атрыманыя ласкі і цуды. Ужо на працягу 400 гадоў у парафіяльнай святыні ў Росі знаходзяцца шматлікія вотумы ад вернікаў як сведчанне ўдзячнасці міласэрнаму Богу. Таму, працягваючы традыцыю продкаў, парафіяне ўрачыста ўнеслі вотумы ад чатырох асоб. Гэтыя адзнакі ўдзячнасці будуць змешчаны каля цудатворнай фігуры Езуса Журботнага.

*“Мы хочам, каб стала традыцыяй кожны год ва ўрачыстасць Божай Міласэрнасці складваць знакі падзякі за атрыманыя ласкі да ног Езуса Журботнага”,* – распавядаюць парафіяне.

## АНОНСЫ

## Запрашаем у пешую пілігрымку маці ў санктуарый у Капцёўцы

**3 мая адбудзецца чарговая пілігрымка ў санктуарый Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі ў Капцёўцы. Пілігрымка з г. Гродна арганізуецца з нагоды святкавання ў нашай дыяцэзіі Дня маці, таму асабліва заахвочваем прыняць удзел у пілігрымцы ўсіх мам, каб прасіць у Найсвяцейшай Марыі апекі і заступніцтва для сваіх сем’яў.**

**Праграма:**

7.00 – святая Імша ў касцёле Маці Божай Анёльскай *(францішканскі);*
8.00 – выхад пілігрымаў;
12.00 – прывітанне пілігрымаў на Узгорку надзеі ў Капцёўцы;
12.00 – 13.00 – адпачынак і гарбата;
13.00 – Вяночак да Божай міласэрнасці;
13.15 – канферэнцыя;
14.00 – Крыжовы шлях;
15.00 – святая Імша;
16.30 – заканчэнне пілігрымкі і ад’езд аўтобусамі ў Гродна.

## „Карытас” запрашае на адпачынак

**Як кожны год, “Карытас” арганізуе адпачынак для дзяцей з бедных, няпоўных і занядбаных сямей, якія не могуць дазволіць сабе выезд куды-небудзь па-за месца жыхарства. Гэта будуць г.зв. “Канікулы з Богам”, якія адбудуцца ў цэнтры адпачынку ў Нецечы (Лідскі раён). Адпачынак арганізуецца для дзяцей ва ўзросце ад 7 да 12 гадоў.**

**Змены:**
08.06.2015 – 21.06.2015
24.06.2015 – 07.07.2015
10.07.2015 – 23.07.2015
27.07.2015 – 09.08.2015
12.08.2015 – 25.08.2015

*Запісацца можна ў пробашчаў парафій.*
*Спісы дзяцей дасылаць на адрас “Карытас”:*
*вул. К. Маркса, 4, 230025, Гродна,*
*тэл.. **75-34-12**, факс **75-34-12**,*
*e-mail: **caritasgrodno@yandex.ru**.*

***Просім захоўваць узроставыя рамкі.***
***Пачатак змены ў 12.00, заканчэнне – у 14.00.***

## Запрашаем на ігнацыянскія рэкалекцыі

**Рэкалекцыі (першы тыдзень) з а. Юзафам Аўгусцінам SJ пройдуць 21–27 чэрвеня 2015 года ў Навагрудку ў доме сясцёр назарэтанак. Духоўныя практыкаванні праходзяць у суцэльным маўчанні, кожны дзень адбываецца размова з духоўным кіраўніком.**

Запіс праводзіцца да 31 мая. Атрымаць больш падрабязную інфармацыю і запісацца можна ў кс. Тадэвуша Крыштопіка па тэлефонах: (+37529)637-55-14, (+37533)637-29-02, або праз электронную пошту: kstad@tut.by.

***Запрашаем да ўдзелу свецкіх, манаскіх сясцёр і святароў.***

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

***Ці размаўляеце Вы на працы** (вучобе) **на рэлігійныя і касцёльныя тэмы?***




*У чарговым апытанні мы прапанавалі чытачам адказаць, ці закранаюць яны ў сваіх штодзённых размовах тэмы, што датычаць Бога, Касцёла, рэлігіі і г.д. Большасць рэспандэнтаў адказала, што размаўляе на рэлігійныя тэмы на працы ці на вучобе. Але ёсць таксама тыя, хто не ўзнімае рэлігійных тэм у сваім штодзённым асяроддзі.*

***Вынікі апытання каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*Вынікі чарговага апытання даюць, на маю думку, падставу, каб задумацца, асабліва душпастарам. Вельмі важна растлумачваць нашым вернікам, што рэлігійныя тэмы павінны ўзнімацца не толькі на тэрыторыі касцёла, але перш за ўсё там, дзе свецкі чалавек знаходзіцца кожны дзень і куды святар не можа дайсці. Рэлігійная размова сведчыць пра наша духоўнае развіццё. Канешне, гэта павінны быць не парафіяльныя плёткі, а абвяшчэнне Добрай Навіны. На маю думку, наша краіна патрабуе сёння менавіта такіх людзей – абвеснікаў Евангелля.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**4 мая 1967 г.** – кс. Ян Віназэндзіс, *проб. Нача;*
**7 мая 1944 г.** – кс. Яраслаў Войдаг, *проб. Ліпнішкі;*
**7 мая 1996 г.** – кс. інфулат Станіслаў Кучыньскі, *ген. вік., І рэктар Гродзенскай ВДС;*
**12 мая 1977 г.** – кс. Кляменс Піваварун, *проб. Васілішкі;*
**13 мая 1948 г.** – кс. Валяр’ян Голяк, *проб. Ашмяны.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі: **grodnensis.by, catholic.by***




*Хвала Хрысту!*

*Рада вітаць Вас у моладзевай рубрыцы "На скрыжаванні". Жадаю ўсім сонечнага настрою і натхнення на кожны дзень. Няхай усё атрымаецца!*

*Сёння мы з Вамі паразважаем аб культуры абыякавасці, заўчаснай смерці і гераічнасці. Даведаемся, хто "раўняе" душы і навошта патрэбна ўмець пераводзіць стрэлкі на сябе.*

***Што ж, наперад з Богам!***


*Ангеліна Пакачайла*

# Узбіць душу, як падушку

**ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ:**
***"А з-за таго, што пашырыцца беззаконне, любоў многіх астыне"*** *(Мц 24, 12)*

Аднойчы вучні спыталі ў Езуса, калі настане канец света. І Ён пералічыў мноства нягод, якія чакаюць чалавецтва. Апошняй з іх было раўнадушша. І дадаў: "Але той, хто вытрывае да канца, будзе збаўлены" (Мц 24, 13).

**ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА:**
***каб мы, адмаўляючы культуру абыякавасці, маглі займацца пакутамі бліжніх, асабліва хворых і ўбогіх***

Папа Францішак заклікае ўсіх католікаў свету маліцца аб чуласці і спагадлівасці сэрцаў. Відавочна, сёння свет гэтага асабліва патрабуе.

**ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА:**
***раўнадушша***

Знакаміты рускі пісьменнік Антон Чэхаў аднойчы сказаў, што "раўнадушша – гэта параліч душы, заўчасная смерць". І сапраўды, душа жыве перажываннямі, пачуццямі, эмоцыямі. Калі кветку не паліваць, вядома, яна загіне. Так і душа – пачынае згасаць. З абыякавасцю прыходзіць бессардэчнасць і безуважнасць.

Паразважаем, ці не трапілі мы ў пастку злога, які "раўняе" душы? Ці не надзяваем маску абыякавасці, калі нам гэта зручна?

**МЭТА МЕСЯЦА:**
***узбіць душу, як падушку***

Мабыць, не адзін з Вас любіць узбіваць перад сном падушку. Тады яна робіцца мякчэйшай і, здаецца, больш утульнай. Прапаную ўзбіць душу! Дазволіць ёй натуральна рэагаваць, нягледзячы на ўстої грамадства і агульнапрынятыя нормы. Не сумнявайцеся, гэта будзе правільны крок насустрач сабе.

Як гэта зрабіць? Глядзіце "справу месяца".

**СПРАВА МЕСЯЦА:**
***пераводзіць стрэлкі на сябе***

Вам прапануецца незвычайная іголкатэрапія. Перад кожнай справай або фразай варта задумвацца: "А калі б мне так?". Не памылюся, калі скажу, што гэтая думка пазбавіла б свет многіх няшчасцяў.

**ПЕСНЯ МЕСЯЦА:**
***"Раўнадушша", G.O.N.G.***

Выканаўца спявае аб тым, што раўнадушша – гэта сухая зямля. "Раўнадушша з'ядае мяне", – ключавыя словы ў прыпеве. "Гэта вайна! Жыццё адно! Абыякавасць забівае! Але ведаю, на зямлі толькі любоў уратуе!". У канцы аўтар падводзіць рысу: "Раўнадушша не для цябе".

**КНІГА МЕСЯЦА:**
***"Пра Эўхарыстыю. Маёвыя разважанні",***
***кс. Францішак Груднёк***

Кніга невялікага фармату, якую зручна насіць з сабой. Выданне змяшчае разважанні на кожны дзень на дзвюх мовах: беларускай і польскай. Пасля кожнага разважання – малітва.

"Разважанні, складзеныя вядомым польскім рэлігійным публіцыстам ксяндзом Францішкам Груднёкам, былі ўзятыя з кнігі «Пан ідзе з неба. Роздумы над хрысціянскім жыццём» (Бытам, 1997). Яны могуць быць выкарыстаны ў касцёлах і капліцах падчас паралітургічных набажэнстваў пад кіраўніцтвам святара, падчас супольнай малітвы групы вернікаў, а таксама для прыватнага чытання і разважання", – напісана ва ўступным слове біскупа Антонія Дзям'янкі.




**АСОБА МЕСЯЦА:**
***святая Жана д'Арк***



Нарадзілася Жана каля 1411 г. у сям'і збяднелых дваран у французскай вёсцы Дамрэмі. Ніколі не вучылася ў школе, таму не ўмела ні чытаць, ні пісаць. Выконвала звычайныя хатнія абавязкі.

Жана расла пабожнай дзяўчынкай. Ва ўзросце 13 гадоў яна ўпершыню, як сама ўспамінае, пачула галасы святога арханёла Міхала, святой Кацярыны Александрыйскай і, як лічыцца, святой Маргарыты з Антыёхіі. Праз іх дзяўчына даznалася пра трагічную сітуацыю на сваёй Радзіме і ролю, якую для яе выбраў Бог. Менавіта Жане было наканавана зняць аблогу з Арлеана, узвесці дафіна на трон і выгнаць захопнікаў з каралеўства. Ішла Стогадовая вайна.

З глыбокай верай 17-гадовая дзяўчына прыбыла да караля і абвясціла яму, што паслана Небам для вызвалення краіны. Кароль завагаўся, але пасля шматлікіх праверак прызначыў яе галоўнакамандуючай. Жана атрымала дазвол насіць мужчынскае адзенне і надзела даспехі. Голас з неба сказаў ёй, дзе быў закапаны меч, пазначаны пяццю крыжамі. На сваім сцягу дзяўчына змясціла абраз Езуса і Марыі.

У 1429 г. Жана з невялікім атрадам вызваліла Арлеан, пасля чаго была празвана "Арлеанскай Дзевай". Дзяўчына прынесла краіне шмат перамог, пад яе заклікам быў каранаваны кароль Францыі. Але з-за прыдворных інтрыг Жана была здраджана і трапіла ў палон да ворагаў.

Пачаўся судовы працэс. Яна была абвінавачана ў зносінах з д'яблам. У ходзе працэсу высветлілася, што абвінавацвць падсудную будзе не так ужо і проста – дзяўчына трымалася мужна і ўпэўнена, абыходзячы шматлікія пасткі. Суд пайшоў іншым шляхам: абвінавацілі дзяўчыну ў нашэнні мужчынскага адзення. Насуперак нормам царкоўнага суда Жане не дазволілі падаць апеляцыю Папе. Яна была спалена заажыва 30 мая 1431 г. на плошчы Старога Рынка ў Руане.

Пасля Стогадовай вайны, якая скончылася перамогай Францыі, добрае імя Жаны д'Арк было адноўлена. Беатыфікавана папам Піем X у 1909 г., кананізавана ў 1920 г. Бенедыктам XV. Касцёл успамінае святую 30 мая.

***Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў маі?***

*Св. Зігмунд (2 мая), св. Фларыян (4 мая), св. Ірына (5 мая), св. Людміла (7 мая), св. Мацей (14 мая), св. Зоф'я (15 мая), св. Андрэй (16 мая), св. Рыта (22 мая), св. Філіп (26 мая), св. Аўгустын (27 мая), св. Жана (30 мая).*

*Усе заўвагі і прапановы дасылайце на паштовую скрыню рэдакцыі або на электронны адрас аўтара рубрыкі pokachailo.lina@gmail.com.*





*Кс. Ян Раманоўскі*

## Як доўга пасля споведзі можна прыступаць да Камуніі?

***У Святым Пісанні можам прачытаць такія словы: "Калі не будзеце спажываць Цела Сына Чалавечага і піць Крыві Ягонай, не будзеце мець у сабе жыцця. Хто спажывае Маё Цела і п'е Маю Кроў, мае жыццё вечнае, і Я ўваскрашу яго ў апошні дзень. (...) Хто спажывае Маё Цела і п'е Маю Кроў, трывае ўва Мне, а Я ў ім. Як паслаў Мяне Айцец, які жыве, а Я жыву праз Айца, так і той, хто спажывае Мяне, будзе жыць праз Мяне"*** *(Ян 6, 53–57).*

*Гэты фрагмент паказвае нам важнасць спажывання Хрыстовага Цела. Перш за ўсё таму, што прыняцце Хрыста ў постаці Хлеба з'яўляецца магчымасцю валодання "жыццём у сабе", а таксама задаткам вечнага жыцця і ўваскрашэння ў апошні дзень. Мы як хрысціяне павінны ўсведамляць важнасць і каштоўнасць прыняцця Хрыстовага Цела ў святой Камуніі. Толькі часам узнікае пытанне, як часта гэта рабіць і як доўга пасля сакраманту пакаяння?*

*Касцёльны наказ, а таксама Кодэкс кананічнага права падаюць, што кожны вернік, пасля таго, як упершыню прыняў Найсвяцейшую Эўхарыстыю, мае абавязак прымаць яе хаця б раз на год (параўн. ККП 920). Падобна і Катэхізіс каталіцкага Касцёла заахвочвае, каб вернікі заўсёды прымалі св. Камунію, калі ўдзельнічаюць у Эўхарыстыі, абавязваючы іх да гэтага як мінімум адзін раз на год, асабліва ў Велікодны перыяд. Але з іншага боку, Касцёл рэкамендуе прымаць Найсвяцейшую Эўхарыстыю ў нядзелю і святочныя дні або часцей, нават штодзённа (параўн. ККК 1389).*

*З гэтага вынікае, што не трэба быць мінімалістам у справе прыняцця Хрыстовага Цела, а сілкавацца эўхарыстычным Хлебам нават штодзённа. Рабіць гэта можа кожны, хто не здзейсніў пасля апошняй споведзі цяжкага граху. Сама святая Камунія мае моц вызвалення ад паўсядзённых грахоў, а гэта значыць, што не абавязкова хадзіць да споведзі кожныя пару дзён з кожным лёгкім грахом, каб прыняць Камунію. Паўсядзённыя грахі прабачаюцца, калі мы абуджаем у сэрцы жаль за іх, таму на пачатку кожнай св. Імшы мы прамаўляем малітву ўсеагульнай споведзі і просім аб прабачэнні паўсядзённых грахоў. Але трэба памятаць, што ў гэтых грахах трэба прызнацца на бліжэйшай споведзі. З іншага боку, тыя, хто хоча яшчэ мацней развіваць сваю сувязь з Хрыстом, могуць прыступаць да споведзі як мінімум раз на два тыдні, як гэта практыкуецца, напрыклад, сярод духоўных і кансэкраваных асоб. Важна таксама памятаць, што нельга вельмі доўга трываць у лёгкіх грахах. Таму Касцёл часта рэкамендуе спавядацца з іх прыкладна раз на месяц.*

***Сакрамант пакаяння і паяднання неаднойчы параўноўваецца з прыбіраннем дома. Можна гэта рабіць раз ці два на тыдзень, раз на месяц, раз на год ці на некалькі гадоў. Але калі для нас важна чысціня душы, трывалы і жывы кантакт з Езусам, то мы павінны клапаціцца аб гэтым як мага лепш.***




# 25 лет особой жизни

***7 мая 1990 года в результате ДТП я стал инвалидом первой группы.***

*Почти 25 лет в инвалидной коляске. Май 1990-го стал для меня роковым. Злосчастная авария забрала возможность ходить. Пошёл новый отсчёт времени. Пришлось заново начать жизнь – особую. Вспоминаю те годы и с содроганием думаю о том, что пришлось пережить мне и моим близким. В основном поддерживали родители и супруга Надежда, а грудная доченька стала стимулом моей жизни.*

*Первые полгода я был полностью обездвижен. Тогда даже самостоятельно сесть на кровати было для меня подвигом сродни полёту в космос. Это стоило невероятных усилий. Были большие физические тренировки с верой в Бога. И я понял, что труд и вера всегда дают хороший результат. Если не сразу, то через какое-то время.*

*Целью многих людей сегодня являются деньги, деньги и ещё раз деньги. Однако, можно быть богачом, но нищим духовно, если сердце и совесть давно уже спят. Когда для меня была проблемой покупка ботинок дочке в садик, я мог молиться за людей с тяжёлыми заболеваниями и видел хороший результат. В этой жизни мы всегда что-то находим, а что-то теряем. Тогда я просил Господа сил дожить до того, как дочь пойдёт в школу, и оставить после себя память. Теперь же мечтаю дожить до школы внука.*

*Неверующих людей почти нету. Есть нерелигиозные. Кто-то верит в Бога, кто-то – в силу природы, а ещё кто-то – в высший энергетический разум. По сути же, всё это можно назвать одним словом – Господь Бог.*

*Я часто думал о том, для чего живут незрячие, неходящие, неразумные. И меня наконец осенила мысль: чтобы здоровые люди задумались, что видеть, ходить, любить – это дар Божий, а не достижения человека.*

***За 25 лет особой жизни мне много раз приходилось больно падать, и первым, кто подавал мне руку, был Бог.***
***Спасибо, Господи, за то, что ты всегда со мной! Слава Тебе!***
***Спасибо также всем людям, которые помогали и помогают мне в этой сложной жизни. Храни Вас всех Господь!***

***С уважением, Эдуард Саук***

# Каштоўнасці Маці Божай

Вясна ўжо набрыняла сонцам. Майскія дні і вечары былі напоўнены водарам і незлічонымі гукамі. Навокал сярод траў, дрэў і кустоў разносілася гудзенне, шчабятанне і жарты. Сапраўды, прыемна было грэцца і прагульвацца, захапляючыся каляровым светам. Але хто ўважліва не ўслухоўваўся ў веснавыя водгукі і не прыглядаўся да раслін, не ведаў, што паміж імі адбываліся брыдкія спрэчкі. На лузе палявыя ружы, якія выглядалі далікатна і чароўна, пакрыквалі стракатлівымі галасамі на іншыя, менш пышныя кветкі:

– Рассуньцеся! Ці ж не бачыце, што хтосьці набліжаецца, каб палюбавацца намі?

– Ага! Якраз! – піскліва закрычалі незабудкі. Гэта мы гераіні мая! Гэта намі захапляюцца!

– Добра, добра. Кажыце сабе, што хочаце, але і так найважнейшыя на лузе мы, – буркнулі разнастайныя зёлкі, кветкі якіх распаўсюджвалі салодкі мядовы пах.

Праз хвіліну да сваркі далучыліся буйныя травы і нават пустазелле, якое прыадзелася ў ружовыя чупрыны. Тым часам бачная здалёк постаць стала на лузе. Папраўдзе, цяжка сказаць, што яна менавіта стала. Яна, хутчэй, далікатна перамясцілася над зямлёй, шукаючы штосьці сярод разгарачаных раслін. Урэшце яе позірк упаў на дробненькія белыя кветачкі ледзь бачныя сярод раскошы іншых кветак і траў. Яна пяшчотна дакранулася да іх далонню і, загарнуўшы ў блакітную хусцінку, адплыла ў бок воднага люстра, што блішчала ўдалечыні. Гэта была вялікая зеленавокая сажалка, на якой калыхаліся шыкоўныя лотаці і вадзяныя лілеі. Гэта яны тут усімі кіравалі. Іншыя расліны паслушна выконвалі іх загады, бо проста былі менш прыкметнымі і таму вельмі нясмелымі. Замест таго, каб спаборнічаць з тымі, кім захапляліся мастакі і закаханыя пары, яны ціхенька размаўлялі і раслі. Так, як і маленькія раслінкі ля берага. Яны выцягвалі паміж раскі свае маленькія галоўкі, каб схапіць жыватворны прамень сонца. Толькі яно было для іх важным.

– Яно прыгожае і добрае, – прызвычаіліся яны гаварыць. – Мы жывём толькі дзякуючы яму.

– Маеце рацыю. Таму Я размяшчу вас бліжэй да яго. – Постаць, якая ўважліва прыслухоўвалася да ўсяго, што адбывалася ў свеце, перанесла маленькія водныя раслінкі ў сваю блакітную хусцінку. Затым аглядзелася навокал і вырушыла ў бок дома з чырвоным дахам. Спынілася за свежа пафарбаваным плотам і агарнула позіркам сад. А там якраз адбываўся паказ мод. На клумбах праходжваліся браткі, дэманструючы свае незвычайныя касцюмы. Ніякія іншыя кветкі не маглі пахваліцца такімі разнастайнымі адценнямі, колерамі і якасцю элегантных матэрыялаў. Больш ніхто не меў столькі аксамітных фіялетавых і бардовых куртачак з залатымі гузікамі, бэзава-блакітных лёгкіх сукенак, белых спартыўных касцюмаў з сінім канцікам. На бліжэйшых градках маргарыткі дэманстравалі пляжныя сукенкі, а белыя і жоўтыя нарцысы – свае элегантныя касцюмы. У зацененай частцы саду, дзе звычайна трымалася вільгаць, адбываўся парад модных пахаў. Свой салодкі водар тут распаўсюджвалі бэз, ландышы і салодкі гарошак. Цяжка было вырашыць: ці захапляцца садовай прыгажосцю, ці паддацца водару натуральных парфумаў, якія распаўсюджваўся навокал. Але далікатная постаць, якая азірала сад, не сумнявалася. Яна схілілася і адхінула траву, што расла пад плотам. Перад Яе яснымі вачамі аказалася купінка аранжавых кветачак, якія туліліся адна да адной паміж салатавых лістоў. Яны пахнулі мёдам і выглядалі як кавалкі бурштыну.

– Вы таксама, – прамовіла меладычным голасам постаць і схавала іх паміж складак сваёй хусты.

На наступны дзень жыхары вёскі накіроўваліся да каплічкі з фігурай Марыі, якая была на ўзгорку. Жанчыны і дзяўчынкі неслі ахапкі самых прыгожых кветак і траў, з якіх збіраліся сплесці вянок для Маці Божай. Мужчыны і хлопцы ішлі трохі далей разам з ксяндзом, які павінен быў асвяціць гэтую нядаўна збудаваную каплічку. Калі людзі затрымаліся перад пабеленымі слупкамі, усе былі вельмі ўражаны. Ад фігуры біў незвычайны бляск. Толькі праз хвіліну людзі заўважылі яго крыніцу. На галаве Найсвяцейшай Панны Марыі блішчала цудоўная карона, аздобленая жэмчугам, ізумрудамі і бурштынам. Адкуль магла ўзяцца такая каштоўнасць на Яе скронях?

– Але гэта не карона. Гэта вянок, сплецены з белых лугавых кветачак і жоўтых садовых, – ускрыкнула маленькая дзяўчынка, пляскаючы ў далоні. – А паміж імі салатавыя шарыкі, што растуць на беразе нашай сажалкі, – смяялася радаснае дзіця.

Безумоўна, толькі цяпер дарослыя паглядзелі на Марыю вачамі дзяўчынкі і пераканаліся, што Божая Маці больш за ўсё любіць тое, што нябачна іх вачам.

– Так, гэта праўда, у яе кароне сапраўднымі каштоўнасцямі з'яўляюцца пакорнасць, сціпласць і паслухмянасць, – сказаў ксёндз, распачынаючы набажэнства.

***ЕП***

## Паразважайма!

***Што Табе прыгадваюць размовы кветак на лузе?***

***Якія Ты ведаеш водныя расліны?***

***Ці ўсе кветкі ў садзе аднолькава важныя?***

***Чаму Маці Божая выбрала менавіта гэтыя, а не іншыя кветкі?***

***Як лічыш, што Богу можа найбольш падабацца ў чалавеку?***

# Ад шчырага сэрца

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа на кожны дзень, нястомнай апекі св. Заступніка і ўсяго самага лепшага. Няхай Вашы планы і намеры рэалізуюцца, а Маці Божая нястомна падтрымлівае на шляху да Пана.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Казіміру Велікасельцу з нагоды Дня нараджэння складаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою на кожны дзень, радасці і аптымізму, нястомнасці ў пастарскай працы, а таксама добрых людзей навокал. Няхай міласэрны Бог нястомна Вас благаслаўляе!

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні здароўя на доўгія гады, неабходных сіл для рэалізацыі намераў, аптымізму і як мага больш адкрытых і шчырых сэрцаў на жыццёвым шляху. Няхай Езус Хрыстус напаўняе Вас сваёй моцай і радасцю кожны дзень.

*Са шчырай малітвай Віталій і Аліцыя Воранавы са Смаргоні*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму з нагоды Велікодных свят ад шчырага сэрца жадаем усіх ласкаў ад уваскрослага Хрыста. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены Божым благаслаўленнем, святлом Святога Духа і апекай Найсвяцейшай Маці. Няхай няшчасці абыходзяць Вас стараной, а радасць, шчасце і супакой заўсёды госцяць у Вашым сэрцы. Шчасці Божа!

*Парафіяне з Каробчыцаў*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу з нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: Божага благаслаўлення на кожны дзень душпастарскай паслугі, моцнага здароўя на доўгія гады, сіл і цярплівасці. Няхай з дапамогай Бога і добрых людзей здзяйсняюцца Вашы планы і надзеі, Ваш святарскі шлях будзе асвечаны промнямі Божай міласэрнасці, а ўсмешка дабрыні ніколі не гасне на Вашым твары. Шчыра дзякуем бацькам за сына святара. Мы памятаем пра Вас у сваіх малітвах да Маці Божай.

*З павагай Ружанцовыя колы з пар. св. Уладзіслава ў в. Суботнікі*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, радасці, нязгаснага запалу ў шчырай і адданай паслузе Богу і людзям, мноства радасных хвілін у гэты цудоўны дзень і на працягу ўсяго жыцця.

*III Ордэн св. Францішка з пар. Суботнікі*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай усё задуманае здзяйсняецца, супакой жыве ў Вашым сэрцы, з твару ніколі не сыходзіць усмешка, а кожная хвіліна жыцця будзе напоўнена Божым святлом, любоўю і міласэрнасцю. Шчасці Божа!

*Сем'і Семярнік Яніны, Мікулка Людмілы і Семярнік Зоф'і*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу з нагоды Імянін жадаем: няхай Бог адорвае Вас моцным здароўем, Найсвяцейшая Панна Марыя мае ў сваёй апецы, а св. Заступнік нястомна выпрошвае для Вас у Пана патрэбныя дары і дапамагае ў кожнай патрэбе. Плённай працы і здзяйснення мар!

*Вернікі з в. Вінцукі*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валянціну Хведуку з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у нялёгкай душпастарскай працы і апекі Маці Божай Чанстахоўскай на доўгія гады жыцця. Няхай міласэрны Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, а Вашых бацькоў – здароўем у падзяку за сына святара.

*З малітвай вернікі з Мацевічаў*

Дарагому Ксяндзу Юрыю Беганьскаму з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, шчасця і радасці, поспехаў у душпастарскай працы, а таксама апекі Маці Божай Нястомнай Дапамогі на кожны дзень.

*Родныя*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Жэгарыну з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны, побач будуць добразычлівыя людзі, а ў сэрцы пануе супакой. Няхай добры Бог адорвае Вас сваімі шчодрымі ласкамі на кожны дзень, а Найсвяцейшая Маці і св. Заступнік нястомна Вамі апекуюцца.

*Парафіяне з Навагрудка*

Паважаным Ксяндзам Аляксандру Баклажцу і Аляксандру Сасноўскаму з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, поспехаў у святарскай працы, штодзённай радасці, шчодрых дароў Святога Духа і Божага благаслаўлення на кожны дзень жыцця. Шчасці Божа!

*Вернікі з Навагрудка*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку з нагоды 10-годдзя душпастарскай паслугі ў нашай парафіі, а таксама Імянін з павагай і ўдзячнасцю перасылаем сардэчныя пажаданні доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, аптымізму, сіл і стойкасці ў дарозе Хрыстовага святарства, нязгаснага запалу ў служэнні Богу і людзям, Божага благаслаўлення, дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і цудоўнага плёну на ніве Пана. Дзякуем за разуменне і цярплівасць, чулае і добрае сэрца, мудрасць і зычлівасць, за апеку і клопат пра нас і нашу святыню, а таксама за ўмацаванне нас у веры і любові да Бога. Няхай усемагутны Бог асвячае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай працы. Шчасці Божа!

*Удзячныя вернікі з пар. Мсцібава*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Раманоўскаму складваем сардэчныя пажаданні з нагоды Імянін. Няхай жыццё з верай, надзеяй і любоўю прынясе Божае благаслаўленне. Няхай у жыцці спрыяюць здароўе і радасць, а Найсвяцейшая Маці, заступніца нашай парафіі, мае Вас у сваёй штодзённай апецы.

*Парафіяльная рада і вернікі*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў: моцнага здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, поспехаў у душпастарскай працы, сіл і стойкасці на кожны дзень, а таксама нястомнай радасці. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуецца, а Дух Святы адорвае сваімі шчодрымі дарамі.

*Вернікі з пар. Раготна*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Раманоўскаму з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шчасця, радасці на кожны дзень жыцця, стойкасці ў святарскай паслузе, моцнага здароўя і толькі добразычлівых людзей побач. Няхай св. Заступнік заўсёды апекуецца і ўзносіць свае малітвы за Вас да Божага трона.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Паўднёвага*

Паважанаму Айцу Станіславу Садоўскаму з нагоды Імянін, Дня нараджэння і чарговай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Маці Божая ахінае Вас нястомнай апекай, а міласэрны Бог узнагароджвае любоўю і святлом, каб Ваш шлях быў шчаслівым і благаслаўлёным, а кожны дзень – ясным, цёплым і радасным. Моцнага здароўя, цярплівасці, сіл і стойкасці ў паслузе на карысць Богу і людзям. Ад усяго сэрца дзякуем за шчырую малітву і адданую працу ў нашай парафіі.

*Удзячныя парафіяне з Поразава*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог адорвае Вас усімі ласкамі, а св. Заступнік моліцца за Вас перад Божым тронам. Няхай мары здзяйсняюцца, усмешка заўсёды ўпрыгожвае твар, а побач будуць добрыя людзі. Няхай праца на карысць Богу і людзям прыносіць шчодры плён, Анёл-ахоўнік дапамагае ў нялёгкай паслузе, а Бог шчыра аддзячыць бацькам за сына святара.

*Былыя парафіяне з в. Мацевічы*

Паважанаму Ксяндзу Станіславу Пытэлю з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: добрага здароўя, аптымізму, поспехаў у душпастарскай працы і толькі добразычлівых людзей побач. Няхай усе няшчасці Вас абмінаюць, а з твару ніколі не сыходзіць радасная ўсмешка. Шчасці Божа!

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Васілішкаў*

Шаноўным Спадарыням: Ядзвізе Альшэўскай, Яніне Малышка, Ядзвізе Матыс і Яніне Галавач з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў на кожны дзень: моцнага здароўя, душэўнага супакою, нястомнай радасці, шчасця і добразычлівых людзей побач. Няхай кожны Ваш дзень будзе благаслаўлёны.

*III Ордэн св. Францішка і Колы Жывога Ружанца з пар. Тэалін*

Шаноўным Вікторыі, Дзмітрыю і Леаніду Ганчыц з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, штодзённай радасці, непахіснай надзеі, моцнай веры, шчасця і Божага благаслаўлення на кожны дзень жыцця. Шчасці Божа!

*Сям'я Крывіцкіх*

Паважаным Ксяндзам Станіславу Краўчанку і Станіславу Лугаўскому з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, радасных дзён у душпастарскай працы, шмат сіл, моцнай веры і Божага благаслаўлення.

*З малітвай Віталій і Аліцыя Воранавы са Смаргоні*

Паважанай Сястры Мар'яне Алешчык з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, душэўнага супакою, усмешкі і радасці. Няхай добры Бог Вас благаслаўляе, а Маці Божая і Езус Хрыстус апекуюцца Вамі, вядуць па дарозе веры, дадаюць запалу да працы і шмат шчасця.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

Паважаны Ксёндз Станіслаў Лабан! З нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем, каб Ваша жыццё было благаслаўлёным, святарская паслуга прыносіла шчодры плён, сэрца напаўнялася радасцю і супакоем, а з твару ніколі не сыходзіла ўсмешка. Жадаем штодзённай апекі Маці Божай і св. Заступніка, а таксама ўсіх дароў Святога Духа на кожны дзень.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Беняконяў*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** кс. Ян Раманоўскі, Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2455; тыраж 6600; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная